**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 22 (530) 3 чэрвеня 2010 года | Кошт **свабодны**




**Здабыванне агню паводле старажытнай тэхналогіі.** *Фота Кастуся Шыталя, 30.05.2010.*

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Íå âàá³öü çÿìëÿ âÿñêî¢öà¢

■ Кастусь Александровіч

**Хоць і сцвярджаецца цяпер, што Праграма адраджэння і развіцця беларускай вёскі пачала прыносіць эфект, шмат дзе працаваць на зямлі ўжо проста няма каму.**

У ліку такіх сельгаспрадпрыемстваў апынуўся і СВК "Янчукі" Пастаўскага раёна, дзе ў штаце застаўся мізер - толькі тры дзесяткі работнікаў. Хоць заўтра тут гатовы забяспечыць працай і жыллём 6 механізатараў, па 4 даяркі і жывёлаводы. Вясной гэты малакольскасны калгас хацелі далучыць да суседняй, больш моцнай гаспадаркі "Дунілавічы-агра", але яго працаўнікі катэгарычна адмовіліся ад такой перспектывы. У адчаі старшыня кааператыва Валянцін Далжонак нават па мясцоваму тэлебачанню "Паставы-ТБ" выступіў і запрасіў пераехаць сюды на працу ў маляўнічую мясцовасць жадаючых і бесрацоўныя сем'і з горада. Такім добраахвотнікам акрамя немалых пад'ёмных ад дзяржавы на пераезд гарантаваны заробкі па мільёну рублёў і болей. Іншая справа, што ехаць у глыбінку, за паўсотню км ад горада, жадаючых знайсці вельмі складана, а то і зусім немагчыма. Як і ў іншых месцах, на Пастаўшчыне пусцеюць год за годам вёскі, закрываюцца школы, ФАПы, клубы і бібліятэкі, бо ў гэтыя ўстановы цывілізацыі няма ўжо каму хадзіць.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

# Çíî¢ çàïðàöàâà¢ ñïîðòêîìïëåêñ

■ Станіслаў Раманчук

**Амаль два гады жыхары горада Верхнядзвінск, прыхільнікі здаровага ладу жыцця, чакалі, калі завершыцца капітальны рамонт фізкультурна-аздараўленчага комплекса ў райцэнтры.**

Для давядзення патрэбнага людзям аб'екта па суседству з Домам культуры і гарадскім стадыёнам "Юбілейны" да ладу патрацілі каля 600 млн. рублёў, пакуль ён зноў пачаў функцыяніраваць сёлета з 9 мая. У сваю чаргу спорткомплекс змяніўся не толькі знешне, але і стаў адпавядаць сучасным патрабаванням. Тут поўнасцю праведзена замена састарэўшых сістэм ацяплення і сантэхнікі, што забяспечыла ФАК цяплом, а душавыя – гарачай вадой. Праведзены таксама рамонт спартыўнай залы, дзе на падлогу паклалі спецыяльнае пакрыццё рэгупол. На такой пляцоўцы прыемна будзе гуляць у міні-футбол, спаборнічаць валейбалістам і баскетбалістам. Таксама значна палепшыліся ўмовы для заняткаў у трэнажорнай зале атлетычнай гімнастыкі. Дзяўчаты і жанчыны атрымалі магчымасць упрыгожыць свае формы цела ў фітнес-цэнтры. Дарэчы, апошнім часам у глыбінцы такіх спартыўных збудаванняў становіцца ўсё болей. Летась пасля рэканструкцыі запрацавалі такія спорткомплексы ў Мёрах і Паставах. У гэтым годзе неўзабаве будзе адкрыты лепшы сярод раёнаў Віцебскай вобласці гарадскі стадыён у Глыбокім.

# Õðýñíû õîä ç Â³öåáñêà ¢ Ïîëàöê óãîíàð âÿðòàííÿ ñâÿòûí³

■Яна Ільіна

**Хрэсны ход з Віцебска ў Полацк, прысвечаны 100-годдзю перанясення мошчаў найпадобнай Еўфрасінні Полацкай, адбудзецца з 1 па 4 чэрвеня.**

Агульны сход яго ўдзельнікаў адбудзецца 1 чэрвеня ў 6.00 каля Віцебскага Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора. Праз горад шлях вернікаў пройдзе па вуліцах Леніна, Замкавай, Кірава – да чыгуначнага вакзала. З Віцебска хрэсны ход рушыць да Старога Сяла, дзе будзе зроблены першы прыпынак на начлег. У наступныя дні прыпынкі на начны адпачынак будуць рабіцца ў Лоўшы і Гаранах.

Удзельнікам трэба мець пашпарт ці іншае пасведчанне асобы, грошы для праезду назад з Полацка, мазольны лейкапластыр, посуд, ёмістасць для вады, цёплае адзенне, спальны мяшок ці коўдру. І, канешне, зручны абутак. І малітвенны настрой. У Полацк людзі, якія захочуць прайсці тым самым шляхам вяртання мошчаў Еўфрасінні Полацкай з Кіева на радзіму ў далёкім 1910 годзе, прыйдуць 4 чэрвеня – якраз напярэдадні дня памяці святой. Хрэсны ход павінны ўрачыста сустрэць месцічы. Юбілейнае святкаванне, прысвечанае перанясенню мошчаў святой апякункі Беларусі, пачнецца 4 чэрвеня а 17-й гадзіне з богаслужэння ў Крыжа-Уздвіжанскім саборы Спаса-Еўфрасіньеўскага жаночага манастыра.

Жадаючым прыняць удзел у хрэсным ходзе можна звяртацца ў Віцебскае духоўнае вучылішча, Свята-Успенскі храм ці зарэгістравацца па тэлефонах 37-25-48, 37-31-59. Як дабрацца іншагароднім удзельнікам да Свята-Пакроўскага сабору: праезд ад чыгуначнага вакзала да прыпынку "Бібліятэка імя Леніна" аўтобусамі №№ 4, 8, 10, 14, 22, тралейбусамі №№4, 6, маршрутным таксі №66.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Ïàä ñòðýëû ñòàðàæûòíàé ãàðìàòû

■ Чэслаў Якубовіч

**У культурнай сталіцы краіны - Полацку - да 1148-годдзя заснавання старажытнага горада прайшло шмат розных святочных мерапрыемстваў.**

Адным з самых памятных сярод іх стала ўрачыстае адкрыццё велічнага манумента вышынёй 24 метры ў цэнтры. Гэты помнік героям вайны 1812 года прастаяў тут 82 гады, пакуль у сярэдзіне трыццатых мінулага стагоддзя яго не знішчылі бальшавікі. Адноўлены высокамастацкі помнік быў адліты на мясцовым прадпрыемстве "Тэхналіт-Полацк". Частку сродкаў на гэты манумент у памеры 44 млн. расійскіх рублёў выдаткаваў бюджэт Саюзнай дзяржавы РБ і РФ. Урачыстае адкрыццё ўпрыгожаннем цырымоніі стаў велічны плац-канцэрт у выкананні роты Ганаровай варты і духавога аркестра Міністэрства абароны Беларусі. Сваю даніну памяці легендарных продкаў аддалі і члены беларускіх клубаў гістарычнай рэканструкцыі. Яны запрошаны ў Польшчу летам на маштабныя ўрачыстасці з нагоды 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, а пакуль тут на плошчы нават прарэпеціравалі пад гукі фанфар стрэлы з гарматы часоў вайны з Напалеонам. Дарэчы, яшчэ адзін падобны манумент вырашылі ўстанавіць і ў расійскім горадзе Малаяраславец. Па заказу дэталі помніка вырабяць у Полацку, а потым па чыгунцы і на грузавіках даставяць туды для мантажу і ўстаноўкі.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 03.06.10 | | | пятн.04.06.10 | | | сб. 05.06.10 | | нядз.06.06.10 | | 07.06.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °С | +23 | +27 | +24 | +18 | +21 | +19 | +10 | +17 | +8 | +20 | +11 | +20 |
| Ціск, мм | 745 | 744 | 743 | 741 | 740 | 741 | 746 | 751 | 752 | 751 | 748 | 747 |
| Вільготнасць, % | 84 | 59 | 77 | 97 | 83 | 85 | 74 | 44 | 83 | 44 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 2 | С-В 2 | С-В 4 | В 3 | С-В 4 | С 9 | С 4 | С 7 | С-З 2 | З 4 | Ю 3 | З 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З мэтай пошуку сродкаў для пагашэння дэфіцыту дзяржбюджэта і стабілізацыі плацёжнага балансу краіны ў Беларусі на 1,5 млрд. долараў павялічаны да 11 млрд. ліміт дзяржаўнага доўгу на канец 2010 года. У кіраўніцтве краіны спадзяюцца сёлета таксама атрымаць крэдыт з антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 500 млн. USD і знайсці сёлета сродкі для фінансавання пачатку будаўніцтва Беларускай АЭС. Эксперты лічаць, што дадатковыя сродкі найперш патрэбны нам для выдачы электарату ў якасці доўгачаканай 500-доларавай зарплаты.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Бельгія.** Па выніках сацапытанняў "Жыццё ў Еўропе" каля 17 % жыхароў ЕС знаходзяцца за рысай беднасці, але там "бедныя" тыя, хто мае каля 1000 EUR зарплаты ў месяц.

**Аўстрыя.** Услед за Літвой на грамадскіх слуханнях у Вене экалагічныя службы краіны далі адмоўную ацэнку праекту будаўніцтва Беларускай АЭС, на чарзе дэбаты ў Польшчы.

**Афганістан.** Амерыканскае камандаванне папярэдзіла, што пачынае ў чэрвені летам шырокамаштабнае наступленне на талібаў у Кандагары, і там будуць ісці жорсткія баі.

**Таіланд.** Пасля трох месяцаў супрацьстаяння лідэры маніфестантаў здаліся ўладам, у хваляваннях загінула 80 чалавек, яны дабіваліся правядзення датэрміновых выбараў.

**Кіргістан.** Старшыні часовага ўрада Р. Атунбаевай прыйшлося ўвесці рэжым надзвычайнага становішча пасля чарговага абвастрэння абстаноўкі на поўдні краіны.

**Англія.** Новы кааліцыйны ўрад краіны з мэтай скарачэння дэфіцыту дзяржбюджэта знізіў сабе і парламенту зарплаты на 5 %, яшчэ 5 гадоў Брытанія не ўступіць у зону еўра.

**Польшча.** За вялікія заслугі ў пабудове адзінай Еўропы прэм'ер-міністр Польшчы Д. Туск атрымаў у Ахене прэмію імя Карла Вялікага, палітык пераканаў палякаў уступіць у ЕС.

**Партугалія.** Услед за Англіяй і Іспаніяй кіраўнік урада Хасе Сакратэс аб'явіў аб рэжыме строгай эканоміі, зніжэнні зарплат на 5 % і росце падаткаў для прадухілення крызіса.

**Расія.** Крызіс у еўразоне адбіўся на зніжэнні за тыдзень золатавалютных рэзерваў краіны на 4 млрд. USD, замежныя інвестары пачалі актыўна выводзіць сродкі адсюль.

**Украіна.** Для фінансавання стабілізацыі ўкраінскай эканомікі Еўрапарламент выдзеліў крэдыт у памеры 500 млн. EUR на ўмовах вяртання гэтай пазыкі на працягу 15 гадоў.

**Італія.** Пасля 19 гадоў шлюбу прэм'ер-міністр С. Берлусконі развёўся з другой жонкай Веранікай, ёй пакінуў шыкоўную вілу і грашовае ўтрыманне 300 тыс. еўра штомесяц.

**Венесуэла.** Для абслугоўвання свайго блога ў Інтэрнеце прэзідэнт краіны Уго Чавес прыняў на работу ўжо 200 чалавек, з-за інфляцыі, росту злачыннасці падае яго рэйтынг.

**Аўстрыя.** Беларускі віяланчаліст Іван Карызна, які ўпершыню выступаў ад нашай краіны на XV конкурсе класічнай музыкі "Еўрабачання" у Вене, прабіўся адразу ў яго фінал.

**Германія.** На чарговым чэмпіянаце свету па хакеі зноў няўдала выступіла зборная Беларусі, якая так і не змагла трапіць у васьмёрку мацнейшых каманд элітнай групы.

**Францыя.** Злачынствам стагоддзя можа стаць крадзёж ноччу пяці карцін коштам 615 млн. USD сусветна вядомых мастакоў з музея сучаснага мастацтва ў Парыжы.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** З 1 чэрвеня ў Беларусі мінімум у 2 разы павялічыліся расходы па новых тарыфах на ацяпленне для ўладальнікаў катэджаў павышанай камфортнасці і пустуючых кватэр.

**Мазыр.** Пасля перапрацоўкі нафты з Венесуэлы на мясцовым НПЗ на асобнай установцы выхад светлых нафтапрадуктаў дасягнуў паказчыкаў – 80 %, у чэрвені новыя пастаўкі.

**Мінск.** Былы пракурор Мінскай вобласці М. Снегір назваў свой прыгавор на закрытым працэсе (7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыма) помстай мафіі, у яго адабралі і кватэру.

**Баранавічы.** Упершыню ў горадзе да крымінальнай адказнасці прыцягнулі 34-гадовую жанчыну за паўторную язду сёлета п'янай за рулём аўто на працягу ўсяго 4 месяцаў.

**Мінск.** У гэтым годзе абавязкова, пацвердзіў 1-ы намеснік міністра працы П. Грушнік, у Беларусі ў бюджэтнай сферы зарплата выйдзе ў сярэднім на узровень 400-405 долараў.

**Гродна.** Супрацоўнікі мытні затрымалі самую буйную ў 2010 годзе партыю кантрабанды ў фуры з Германіі, якая везла ў Расію па падложных дакументах груз коштам 1 млн. еўра.

**Мінск.** Мінспорту Беларусі даручылі да 1 жніўня вызваліць РЦАП адзінаборстваў ля дзяржцырка, пасля зносу цэнтра тут пачнуць будаваць 5-зоркавы гатэль Kempinski SA.

**Жабінка.** Міліцыя прыцягнула да крымінальнай адказнасці трох маладых хуліганаў з Брэста, якія п'яныя паказвалі людзям праз вокны мікрааўтобуса свае агаленыя задніцы.

**Мінск.** Экспарт нафтапрадуктаў з Беларусі сёлета зменшыўся на 39,1 %, львіную долю бяспошліннай расійскай нафты айчынныя НПЗ ужо выкарыстаў, цэны на АЗС растуць.

**Асіповічы.** Ураганны вецер стаў прычынай затрымкі на нейкі час ў раёне руху адразу двух дызель-цягнікоў, калі моцныя парывы ветру павалілі дрэвы на чыгуначныя пуці.

**Гродна.** Вельмі прадстаўнічым аказаўся 6-ты Беларуска-літоўскі эканамічны форум, сёлета таваразварот паміж дзвюма краінамі ўзрос на 38,2 % і можа скласці 1 млрд. USD.

**Гомель.** Упершыню ў цэнтральным парку горада заквітнела ля фантана побач з палацам рэліктавае мужчынскае дрэва гінкга, пасаджанае яго заснавальнікамі князямі Паскевічамі.

**Магілёў.** Міліцыя затрымала групоўку маладых непрацуючых злодзеяў з трох чалавек, якія за апошнія 3 гады абрабавалі сем разоў зернесклады калгасаў у 5 раёнах вобласці.

**Слонім.** Пры падтрымцы Глабальнага экалагічнага фонда ў суме каля 5 млн. USD ля райцэнтра распачалі работы па знішчэнні магільніка непрыдатных пестыцыдаў.

**Нясвіж.** Пасля заканчэння рэстаўрацыі мясцовага замка калегі з Варшавы пагадзіліся вярнуць сюды для паказу 73 партрэты са знакамітай галерэі князёў Радзівілаў.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** На праграму развіцця пчалярства на Віцебшчыне ў 2010-2011 гадах з абласнога бюджэту будзе выдзелена 680 млн. рублёў, пакуль у рэгіёне ёсць 37,6 тыс. пчоласем'яў.

**Лепель.** Як і іншыя прадпрыемствы краіны, мясцовы малочны камбінат прыпыніў часова пастаўкі сухога малака ў Расію, адсюль яго шмат экспартуюць у Венесуэлу, на Кубу.

**Віцебск.** Мінскі скульптар У. Слабодчыкаў тэрмінова перарабіў забракаваны помнік-плагіят князіне Вользе, і цяпер яна стаіць не на носе, а ў сярэдзіне плывучай ладдзі.

**Браслаў.** Упершыню ў Беларусі ў раёне на працягу двух дзён прайшлі аўтаралі міжнароднага ўзроўню з удзелам больш 50 гоншчыкаў РБ, РФ, Украіны і Прыбалтыкі.

**Віцебск.** Сапраўдным ажыятажным попытам ў горадзе карыстаюцца новыя кватэры ў буйнапанэльных дамах коштам 1,4 млн. рублёў 1 м², на іншыя жадаючых не знайсці.

**Полацк.** У холе новага корпуса дзяржуніверсітэта адкрыўся сучасны сацыяльна-гандлёвы комплекс з інтэрнет-кафэ і буфетам, дзе студэнты і выкладчыкі могуць паабедаць.

**Віцебск.** Да чарговага Міжнароднага фестываля мастацтваў "Славянскі базар" у гасцініцы "Ветразь" з'явіўся буцік-гатэль, кожны нумар якога будзе эксклюзіўным.

**Орша.** Супрацьстаршыні аднаго з калгасаў раёна завялі крымінальную справу за махінацыі з нямэтавым выкарыстаннем 0,5 млрд. рублёў траншу на аплату камбікорму.

**Віцебск.** У 19-ты раз у абласным цэнтры прайшла выстава візуальных мастацтваў "Арт-Сесія" з удзелам студэнтаў мастацкіх ВНУ краіны, Расіі, Германіі і Польшчы.

**Паставы.** У горадзе завяршаюцца работы па мадэрнізацыі фізкультурнааздараўленчага комплекса мікраёна 5 гарадка, там адкрыецца і доўгачаканы плавальны басейн.

**Віцебск.** У мясцовай гімназіі № 8 упершыню прайшоў першы абласны злёт-сустрэча прадстаўнікоў 24 педагагічных дынастый, цяпер прафесія настаўніка не прэстыжная.

**Полацк.** З нагоды 100-годдзя перанясення мошчаў прападобнай Е. Полацкай з Кіева ў Спаса-Еўфрасінеўскі кляштар у горадзе прайшлі шэраг значных мерапрыемстваў.

**Віцебск.** Жыхароў прыгараднай вёскі Брыгітполле і не толькі шакіраваў факт расчлянення сякерай у сне 53-гадовага мужчыны сужыцельскай яшчэ зімой, труп яна закапала ў лесе.

**Мёры.** Падчас адзінага тыдня масавага футбола ў райцэнтры ўрачыста адкрылі сучаснае футбольнае міні-поле, юным футбалістам уручылі камплекты спартформы, экіпіроўку.

**Віцебск.** У абласным цэнтры з поспехам прайшлі гастролі акадэмічнага тэатра драмы з Брэста, які паказаў віцяблянам 5 сваіх лепшых пастановак і "сцёб-арт" для моладзі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**192** *млн. USD* – такім напрыканцы мая, па афіцыйных дадзеных ААТ "Газпрам", стаў сёлета бягучы доўг Беларусі па аплаце газу расійскаму суперманапалісту. Верагодна, вынесіць публічна такія супярэчнасці ва ўзаемаадносінах паміж саюзнікамі канцэрн раней бы не асмеліўся. Але цяпер адносіны паміж вышэйшым палітычным кіраўніцтвам РБ і РФ абвастрыліся, і расіяне сцвярджаюць, што беларускі доўг расце кожны месяц з пачатку 2010 года і , калі сітуацыя не пераменіцца з аплатай плацяжоў, у канцы снежня запазычанасць можа дасягнуць больш паўмільярда долараў.

Як кажуць, вынес смецце з хаты, вядомы раней ужо многім тэлегледачам пры такім абвастрэнні адносін афіцыйны прадстаўнік "Газпрама" Сяргей Купрыянаў. Ён сцвярджае, што партнёр яго кампаніі - "Белтрансгаз" выраўшыў аплочваць пастаўкі газу не па кантрактнай цане сёлета на ўзроўні 1-га квартала 169,22 USD/тыс. кубаметраў, а па ўстаноўленай беларусамі ў аднабаковым парадку. Расійскі чыноўнік выказаў вялікую заклапочанасць развіццём падзей і прыгразіў Беларусі абмежаваннямі, калі яна не разлічыцца па накопленых даўгах. Што і казаць, сітуацыя трывожная на фоне таго, што не ўдаецца выращыць і супярэчнасці па адмене расійскіх пошлін на нафтапрадукты.

Апошняй праблемай, як вядома, пачаў разбірацца Эканамічны суд СНД, і нашу краіну занепакоіў той факт, што гэты працэс пачаў весці расійскі суддзя. Па-ранейшаму, Беларусь не згаджаецца з увядзеннем з 1 ліпеня новых павышаных да ўзроўню РФ пошлін на ўвоз аўтамабіляў фізічнымі асобамі. Таму відавочна, што Мытны саюз трох краін летам паўнацэнна не запрацуе. У дадатак засягваюцца тэрміны пачатку будаўніцтва ў Беларусі АЭС і пад пытаннем заключэнне неабходных пагадненняў з расійскімі кампаніямі, якія ўжо пачалі ўзводзіць уласную Балтыйскую АЭС і праяўляюць зацікаўленасць да супрацоўніцтва ў аналагічным пытанні з Польшчай, Балгарыяй, а не з Беларуссю.

Сітуацыя з газам пакуль заблытаная, тым больш невядома, што будзе з цаной "блакітнага паліва" ў 2011 годзе. Пакуль жа беларускі бок упарта прытрымліваецца мінулагодняй цаны пaставак газу – 150 долараў. У адказ канцэрн "Газпрам", як пацвердзілі высокапастаўленыя расійскія крыніцы інфармацыі, накіраваў спецыяльныя пісьмы ў "Белтрансгаз" і ва ўрад Беларусі з папярэджаннямі аб магчымым скарачэнні паставак газу і прымяненні санкцый у адпаведнасці з кантрактам.

Беларускі бок у сваю чаргу сцвярджае, што палітычнае рашэнне па газаваму пытанню РФ і РБ прынялі яшчэ напрыканцы 2009 года. На словах тады, сапраўды, было даручана ўрадам абодвух краін адпрацаваць механізмы і схему, каб цана газу сёлета была максімальна блізкай да цаны паставак летась у рамках праграмы супрацоўніцтва ў энергетычнай сферы. Такім чынам, відавочна каторая па ліку прабуксоўка ў межурадавым супрацоўніцтве. Прэс-сакратар расійскага прэм'ера Дзмітрый Пяскоў прама заявіў на гэты конт, што Беларусь павінна прытрымлівацца раней падпісаных кантрактных цэн на газ.

У любым выпадку, нельга не прызнаць, што ў саюзнай болей на паперы дзяржаве існуюць значныя супярэчнасці і сур'ёзныя бар'еры на граніцах краін і не толькі. Асаблівую важнасць гэта пытанне набывае на фоне імкліва набліжаючыхся новых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, якія павінны быць праведзены не пазней лютага 2011 года. Калі беларускі лідэр выраўшыць зноў пайцы на іх, як бы мы не сталі сведкамі такога пахаладання адносін з Масквой, як было 5 апошніх гадоў у адносінах Расіі з Украінай.

Дарэчы, дабіўшыся свайго ў Крыме, найперш у пытанні захавання расійскага флота ў Севастопалі, Расія не выказвае жадання падтрымаць афіцыйны Кіеў і дазволіць яму закупляць праз свае трубы больш танны сярэдне-азіяцкі газ. У адказ В. Януковіч таксама вырашыў аддзяліць мух ад катлет і заявіў, што Украіна будзе настойваць на сваёй долі замежнай маёмасці былога СССР. Украінцы прэтэндуюць на 1/6 часткі актываў, а гэта 20 млрд. долараў і нават 42 тоны золата.

Так што ісці насустрач сваім партнёрам расійскі бок не жадае нават ва ўмовах эканамічнага крызіса. Узнікае ўвогуле пытанне, ці ёсць будучае ў такога вось супрацоўніцтва на постсавецкай прасторы, дзе толькі ў нас у Беларусі ўсё без перамен.

# Загадкавы помнік у Дзеркаўшчыне? Ужо не загадкавы!

■ Ул. Скрабатун

**У свой час («ВГ» № 8 (516) за 25 лютага 2010 г.) мы паведамлялі аб загадкавым помніку на старых каталіцкіх могілках у Дзеркаўшчыне. Хто ён, Юстын Станкевіч, якому пастаўлены такі шыкоўны помнік «ад смуткуючай дачкі»?**

Помнік датаваны 1912 годам. Без малога – 100 гадоў таму пастаўлены. Здавалася б, ужо на гэтае пытанне і адказаць няма каму...

Раптам, нечаканае тэлефанаванне з Дзеркаўшчыны. Жаночы голас кажа: «Ганна Вільгельмаўна Журунская ведае, хто такі Юстын Станкевіч!»

І колькі ж гадоў той Ганне Вільгельмаўне?! – падумалася.

Прозвішча Станкевіч – досыць распаўсюджанае не толькі на абшарах Глыбоччыны, але і па ўсёй Беларусі. Больш таго, і на тэрыторыі суседняй Літвы ёсць прозвішча – Станкявічус. Гэта так, як у расейцаў – Іваноў.

Згадваю пра тое нездарма, бо мой напарнік Генадзь Трафімавіч Комель, з якім аўтар выправіўся ў гэтую вандроўку, напрыклад, збірае звесткі пра двух родных братоў Станкевічаў – генералаў. Аднаго – белай, другога – чырвонай, армій. Яны паходзяць з ужо неіснуючай вёскі Губіна, якая знаходзілася побач з Асінагарадком на Пастаўшчыне. Магчыма, дзеркаўшчынскі Станкевіч і губінскія Станкевічы – сваякі? (Забягаючы наперад, як сталася, – не!)

Жыхарка Дзеркаўшчыны Ганна Вільгельмаўна Журунская, пенсіянерка, выглядае молада і бадзёра. А я, чамусьці, палічыў, што сустрэну вельмі старажытную бабульку...

– Жылі мы тут па суседству з Рыжай Ядвіляй… Часта да нас прыходзіла, – апавядае Ганна Вільгельмаўна. Яна мне шмат чаго апавядала. Няма яе ўжо сярод нас, бо было б ёй цяпер гадоў пад сто, ці болей. Ейныя бацькі былі ў Юстына Станкевіча работнікамі. Служылі ў пана. Адкуль гэты пан, я не ведаю. Пра гэта, можа, няхай апавядзе Уладак Рыжы, сын Ядвілі.

Не ведаю, колькі ў яго зямлі было, але фальварак пана Станкевіча быў у Блізьнім. Гэта за Дзеркаўшчынай – направа. Там у яго было шмат слугаў.

– Дык вось, Ядвіля тады была маленькай, а ейныя бацькі ў пана Станкевіча служылі. Дык яна баіла мне, што пан Станкевіч наймаў людзей на работы. Служылі яму, перадусім, бедныя людзі, у якіх было мала зямлі, з Заазер'я, напрыклад. Ну, яны ў яго: то касілі, то аралі, плацілі ім за гэта, кармілі – усё так, як даўней было заведзена.

– У Заазер'і ж жыла дужа прыгожая дзяўчына… Служанка ягоная. Ну, гэты Станкевіч, я не скажу, што ён яе кахаў… Але ж багаты быў! Пан… Недзе там у Заазер'і ён яе і "прыціснуў"… Гэта цяпер – усе разумныя, усё ведаюць, і распавесці могуць! А раней? Хто каму што мог распавесці! Сядзела яна, гэтая дзяўчына, ды маўчала, сцяўшы зубы. Ды й бацькі ў яе памерлі. Каму пажаліцца? Нарадзіла яна дзяўчынку… Гадавала. Ну колькі гадоў? Мо два, ці тры. Узяла ды памерла. Засталася гэтая маленькая дзяўчынка адна. Цяпер ў дзіцячы дом аддалі б, а раней жа дзіцячых дамоў не было. Узяўся дзяўчынку гадаваць ейны брат, а ў яго самога было чацвёра дзяцей.

Прайшло колькі гадоў. Пан жаніўся, але дзяцей у яго не было.

Аднойчы пан пайшоў работнікаў наймаць – авёс касіць. Прыйшоў і ў гэтую вёску, зайшоў у хату, дзе дзядзька гадаваў пляменніцу...



**Ганна Вільгельмаўна Журунская.** *Фота Ул. Скрабатуна, 20.05.2010 г.*

Людзі за сталом. Ядуць. Цяпер жа – у кожнага свая: і талерка, і міска, і лыжка, і відэлец. А тады? Сядзяць і "цягаюць" зацірку лыжкамі з адной агульнай міскі. Мурзатыя, брудныя дзеці! І дзяўчынка гэтая сядзела і ела. Зразумела, пан адчуваў, здагадваўся, што гэта – ягоная дачка. Зашчаміла ў яго сэрца! Шкада стала дачкі! Галодная, мурзатая… Узяў ён яе з сабой у фальварак гадаваць. Няхай жыве сярод работнікаў.Там кухня ёсць, дзе павары ежу гатуюць работнікам. Галодная ж не будзе! Ну й жыла яна там сярод работнікаў, пад'еўшая была. Напэўна ж пан, і адзенне дзяўчынцы нейкае купляў.

Было ёй ужо гадоў 14-15… Пан вырашыў прызначыць яе пакаёўкай. Абы ўжо ў пакоях была а не на кухні – бліжэй да сябе. Наняў ёй настаўнікаў, каб вучылі. Ну, вырасла яна ўжо... Пан Станкевіч вырашыў дачку замуж выдаць у Наваполле… У тамтэйшага пана было два мальцы і дзве дзяўчыны. Дарослыя ўжо. Аднак Юстынава дачка пайшла насуперак яго волі, замуж не захацела. Вырашыла выехаць у Пецярбург… Вучыцца. Ці яна паспела выехаць? – не ведаю. Можа і выехаўшы была.

Пан Станкевіч памёр… Перад смерцю ён апісаў частку маёмасці на жонку, а іншую, напэўна ж, і не меншую – на сваю дачку. Іншых дзяцей у Юстына Станкевіча не было.

Дачка заказала помнік у Вільні, бо такіх, як гэты, у выглядзе дрэва (дуба), у нас не рабілі. І вязлі яго ў Дзеркаўшчыну ці то на шасці, ці то на васьмі, конях.

Яна ж дачка была! Таму й напісана на помніку –"Od Stroskanej Córki" ("Ад смуткуючай дачкі").

– Прайшло дужа шмат гадоў… Не памятаю, які гэта быў год, можа 1967, ці 1968? Я тады працавала ў магазіне… Каля касцёла тым часам хата стаяла, якой ужо няма. Жылі там Пухальскія. Старыя дзевы, якія так і не выйшлі замуж. Прыехала да іх у той год адна старушка, на выгляд гадоў – 85-90. Добра апранутая, з сумачкай. Вось гэтая старушка і Пухальчанка пайшлі на могілкі, а па дарозе завіталі да мяне ў магазін… Што куплялі? – ужо не памятаю. Ну й пайшлі яны далей на могілкі.

Потым, пры сустрэчы, я запыталася ў Пухальчанкі:

– Што гэта за старэнькая жанчына была з табой?

– Яна мне і сказала: "Дачка Юстына Станкевіча. Прыехала адведаць магілу бацькі…"

– Я й паведаміла Ядвілі Рыжай, якая ўжо на той час пераехала ў Дзеркаўшчыну і жыла каля касцёла.

– Ай-ай-ай! Чаго ж яна да мяне не зайшлася! Мы ж малыя разам былі!

– Шкада, што я – краязнаўца, а не пісьменнік, – падумалася мне, пакідаючы дом Ганны Вільгельмаўны. Гісторыя, якая кранае душу! Гатовы сюжэт для рамана. З прыпіскай: "У аснову рамана ляглі рэальныя падзеі…"

Між тым – гэта яшчэ не канец гісторыі…

– Уладак Рыжы – старэй за мяне, і больш ведае. Зайдзіце да яго, – раіла на развітанне Ганна Вільгельмаўна.

– Юстын Станкевіч арэндаваў у Дамейкі фальварак Лупачэва, – кажа Уладыслаў Віктаравіч Рыжы. Мой дзед Антон Драбёнак – мамін бацька – працаваў у Станкевіча. Разам ездзілі. Дзедава сям'я жыла ў Лупачэве, мая мама там і нарадзілася.

Пан Дамейка ўзяў ды прадаў Лупачэва пану Палачанскаму. Арэндатар Станкевіч пра тое загадзя не ведаў. Мог і адкупіць фальварак у Дамейкі. Ды сталася позна – паперы ўжо былі аформленыя на пана Палачанскага. Станкевіч быў дужа засмучаны, вельмі перажываў. Вымушаны ён быў арэндаваць у Дамейкі іншы фальварак – Блізьняе. Хоць у Літоўцах, каля Крулеўшчыны, у яго яшчэ было 3 гектары зямлі. Але, што тыя 3 гектары для яго! Між тым, зямля ў Блізьнім была горшая. І ўсё ж, Станкевіч вырашыў арэндаваць Блізьняе. Ну й дзед мой туды паехаў і мая мама.

Па аповядах мамы – дзяцей Станкевіч ад жонкі не меў. Ён зрабіў дзіця сваёй служанцы.

Ну і як ён паміраў ад сухотаў у 1912 годзе, апісаў маёмасць на жонку і

*Працяг на стар. 5*



**Уладзіслаў Рыжы (злева) і Генадзь Комель.** *Фота Ул. Скрабатуна, 20.05.2010 г.*




**Помнік Юстыну Станкевічу на старых каталіцкіх могілках у Дзеркаўшчыне.** *Фота Ул. Скрабатуна, 20.05.2010 г.*

**Заканчэнне.**
***Пачатак на стар. 4***

дачку, падзяліў грошы і ўсё іншае.

Як ён памёр, дачка заказала ў Вільні помнік. Прывезлі цягнікам (у Глыбокае?). А сюды, у Дзеркаўшчыну, чацвёрыком запрэжаных коняў. Так казала мая маці.

Дзе, у якім горадзе, як далёка адсюль, жыла дачка Юстына Станкевіча, мая маці не ведала. Аднак, ужо пасля вайны, прыязджала ягоная дачка ў Дзеркаўшчыну з Украіны. Але да нас яна не заходзіла, бо мы жылі тады на хутары. Зайшла яна да Пухальскіх, што жылі насупраць касцёла. Мая мама потым ёй, Пухальскай, казала: "Чаго ж ты яе да мяне не завяла? Мы ж – амаль аднагодкі. Разам гадаваліся!"

Тут, калі скончылася вайна, дзесьці, пасля 1920-га года, гэтае Блізьняе, пан Дамейка аддаў польскім асаднікам, – працягвае аповяд Уладзіслаў Рыжы. Усім надаў па 10 гектараў зямлі – бясплатна. Тут былі асаднікі: Лешчыкі, Пілярскія, Мазылеўскія, Жукоўскія, Магеркі… Адзін з Магеркаў, які вось тут, побач жыў, зямлі не браў, але ўзяў патэнт ды адкрыў магазін, дзе гандляваў гарэлкай і ўсім, чым хочаш. Разбагацеў. Дом пабудаваў у Дзеркаўшчыне. Потым адкрыў яшчэ адзін магазін за ракой, каля Параф'янава. Калі ў 1939-ым прыйшлі бальшавікі, дык усіх асаднікаў – у Сібір вывезлі. Аднак гэты Магерак, які трымаў крамы, паспеў збегчы ў Польшчу. Яго там, нашыя, потым сустракалі. Жаніўся зноў. А тут, у Дзеркаўшчыне, засталася былая жонка і дачка. Дачка выйшла замуж і дом пабудавала ў Глыбокім па вуліцы Леніна, на развілцы з вуліцай Чапаева. Яе ўжо няма, але жыве там ейны сын, прыязджаў неяк, казаў: "Ты, Уладак, на маёй дзелі дзедавай зямлі пабудаваўся!" Гэта ж Малей Магерку гектар зямлі быў прадаў. Малея ж таго, бальшавікі потым у Сібір вывезлі.

Дамейкі тут у нас усімі фальваркамі валодалі: Анюціным, Сітцамі, Лупачэвам, Воўкаўшчынай 2-ой, Дзеркаўшчынай 2-ой, Блізьнім, Галубовым, але галоўная рэзідэнцыя дзеркаўшчынскага Дамейкі была ў Дрысвятах на Браслаўшчыне, хоць у Сітцы ён прыязджаў вельмі часта.

Маёнткаў і фальваркаў у яго было шмат! Аж пад Вільняй. Дзеркаўшчыну 2-ую ён парэзаў па 10 гектараў і прадаў. Людзі з Польшчы прыязджалі і набывалі зямлю: Мадзяры з Пазнані, Кухарэўскія, Мільчаракі, Папіны… Усе яны па частках выкупілі Дзеркаўшчыну 2-ую.

*– Ведаю я аднаго Папіну, шаркоўшчынскага камерсанта, краму ў цэнтры Глыбокага трымае. А яго брат і цяпер жыве ў Дзеркаўшчыне 2-ой, – каментую я.*

– Дык, гэта іхні дзед, а не бацька, з Польшчы прыехаў, і зямлю ў Дамейкі купіў. Сям'я ў Папінаў была вялікая.

Тут зямлю куплялі і нашыя людзі. З Пастаўшчыны, напрыклад, ці з Глыбоччыны: Снарскія, Кабылінскія (з Квачоў), Лілі, Дзянькоўскія…

Галубова, дарэчы, Дамейка падараваў свайму кучару. З усім, што там было: пакоем, гаспадарчымі пабудовамі, скацінай, зямлёй… Шырэй – прозвішча кучара. Яго таксама, у 1940-ым, бальшавікі ў Сібір вывезлі.

Лявон Дамейка, той, які касцёл наш пабудаваў – родны брат Ігната Дамейкі, які пасля паўстання з'ехаў у Чылі.

*– Мне падаецца, што вы не маеце рацыі! Штосьці я не чуў, што яны – родныя браты былі. Я гэта, усё ж, высветлю,– перапыняе аўтар Уладыслава Віктаравіча.*

– Браты!

*– Усё ж, я высветлю! Але радня – адназначна*. Аднак, у якім калене?*

– У Дзеркаўшчыне 2-ой пры Дамейку была вытворчасць, – працягвае далей Уладзіслаў Віктаравіч. Цагельна існавала. Выраблялі цэглу, але не такую, як цяпер, а вялікую, і дахоўку таксама. Я тое месца ведаю.

*– Дык на дахоўцы ж стаяў штамп – «V. Domejko», «Sittce», – удакладняе аўтар.*

– Хоць і стаяў штамп «V. Domejko», «Sittce», але дахоўку выраблялі ў Дзеркаўшчыне 2-ой. Млын там яшчэ быў, але не водны і не паравы, а – таптак. Яго ў рух прыводзілі чатыры валы, – казаў мой бацька. Валы хадзілі па кругу, як вавёркі ў коле.

Казалі людзі, што Дамейка быў дужа добрым панам. Вось хата, напрыклад, у кагосьці згарэла, конь здох… Абы да яго дабрацца! Дасць лесу, каня… Падвядзе цябе да статка ці табуна – ідзі, выбірай: каня, карову. Але да яго надта не падпускалі! Усё раздасць! Такі добры быў пан Дамейка.

Вось такая гісторыя – пра Юстына Станкевіча, і пра добрага пана Дамейку, у якога Юстын Станкевіч быў арэндатарам, і пра помнік на яго магіле "ад смуткуючай дачкі".

Загадкавы помнік ў Дзеркаўшчыне – ужо больш не загадкавы!

* Як паведаміў аўтару краязнаўца Кастусь Шыталь, знаўца гэтай тэмы: Лявон Дамейка (1768?–1845), уладальнік Дзеркаўшчыны 2-ой і шматлікіх фальваркаў, фундатар касцёла – родны дзядзька Ігнату Дамейку (1802 — 1889), навукоўцу, нацыянальнаму герою Чылі.

# Вада затоплівае падвал, бо жыльцы не могуць знайсці паразумення

■ Кастусь Шыталь

**Спрэчка паміж жыльцамі ўскладняе вырашэнне праблемы з затапленнем падвала дома №1/1 па вул. Горкага ў Крулеўшчыне. Карэспандэнт "Вольнага Глыбокага" наведаў месца падзеяў.**

Цягам доўгага часу ў гэтым доме затоплівала падвал. Агарод, што пад вокнамі дома, вышэй за тэрыторыю каля дома – і таму вада ад дажджоў і талага снегу цячэ проста ў падвал. "Вольнае Глыбокае" ўпершыню напісала пра гэтую праблему яшчэ ў 2004 годзе.

Адказныя асобы "заварушыліся" толькі мінулым летам. У чэрвені таго году адбыўся сход жыльцоў дому пры ўдзеле прадстаўніка сельсавета. Было вырашана пракапаць некалькі раўкоў перпендыкулярна дому. Камунгас павінен быў пракапаць дрэнажную канаву ўздоўж дарогі.

Прайшло некалькі месяцаў, але нічога так і не было зроблена. У кастрычніку сабралася камісія ў складзе галоўнага інжынера камунгаса А. Трахініна, старшыні сельсавета А. Таляронак ды начальніка крулеўшчынскага ўчастка камунгаса А. Петуха. Дзеля адводу вады было вырашана пракапаць равок паралельна дому. У хуткім часе пасля гэтага равок быў пракапаны.

Гэта выклікала незадавальненне Камінскіх, якія жывуць у кватэры №3. "Паглядзіце, якія тут у нас былі кветкі, – Ала Камінская паказвае фотаздымкі, – А прыйшлі камунгасаўцы і ўсё знішчылі". Вясной Анатоль і Ала Камінскія вырашылі аднавіць свае кветнікі. Дзеля гэтага закапалі равок, спасылаючыся на рашэнне ад 24 чэрвеня 2009 года, паводле якога раўкі мусяць ісці перпендыкулярна, а не паралельна дому.


Повестка дня: отвод воды от жилого дома по ул. М. Горького д 1/1.

Решили: жильцам жилого дома прокопать канавы вдоль своих участков для стока воды.
Для общего стока воды прокопать РУП ЖКХ канаву вдоль ограждения огорода до канавы вдоль улицы М. Горького.

Каминский А.Т.
Крупская В.Ф.
Крупский А.В.
Гриценко А.Н.
Романик А.А.
Тамковская С.Д.
Каминская А.Н.
Новикова

"Калі пракапаць раўкі перпендыкулярна дому, вада ўсё роўна будзе цячы з агарода ў падвал, бо агарод вышэй за тэрыторыю каля дома. Каб сцякала ад дома – патрэбна капаць равы метровай глыбіні ды яшчэ паглыбляць дрэнажную канаву за агародам. На гэта патрэбна шмат сілаў і сродкаў, патрэбная тэхніка – і малаверагодна, што за гэта нехта возьмецца. А па паралельным раўку вада добра сцякала, бо нават на вока бачна, што ў той бок натуральны ўхіл рэльефу", – сцвярджае Барыс Пугаўка, які неаднаразова пісаў звароты дзеля вырашэння праблемы.

"У нас ёсць дакумент, што раўкі мусяць быць пракапаныя перпендыкулярна дому. Ад паралельнага раўка не было карысці, бо па ім вада не сцякала", – не пагаджаецца Ала Камінская.

"За гэты равок адбываецца "вайна" паміж двума пад'ездамі. Але карысці ад яго няма – вада, пасля таго як перапаўняе яго, усё роўна цячэ ў падвал", – пракаментаваў сітуацыю майстар камунгаса Аляксандр Петух. Што цікава, мінулай восенню А. Петух быў у складзе камісіі, якая прымала рашэнне капаць гэты равок. Зараз ён кажа, што "трэба, каб жыльцы пракапалі раўкі праз свае агароды ў прыдарожную канаву. Летась паразмаўлялі, паразмаўлялі пра гэта, але ніхто так і не ўзяўся нічога рабіць".

Шкада, што я не маю геадэзічнага абсталявання, каб разабрацца, куды насамрэч мусіць быць адведзеная вада. Зрэшты, абсурднасць сітуацыі відавочная – дзесяткі людзей церпяць нязручнасці з-за таго, што ні адказныя асобы, ні нават самі "ахвяры сітуацыі" не могуць вызначыцца, якім чынам вырашаць праблему.


Кветкі на месцы раўка

## Што радуе позірк і ўздымае настрой, а што яго азмрочвае


У хуткім часе па вул. Міра забуяніць краскамі міні-горад сад. *Фота Я. Самсонава.*


Застаецца спадзявацца, што такое "ўпрыгожванне" ля дома №138 па вул. Леніна часовае. *Фота Я. Самсонава.*

# У Вяснянцы рыбак зачапіў вудай ЛЭП

**Мужчына застаўся жывым. На ім абгарэла ўся вопратка і скура. На месцы здарэння забіла каля сотні рыбін.**

Рыбалка ў мікрараёне Вяснянка для 55-гадовага Валерыя П. ледзь не скончылася трагедыяй. Мужчына рыбачыў на адрэзку Свіслачы паміж футбольным манежам і паркам «Дрымлэнд». А 18-й ён закідваў вуду і зачапіў высокавольтную ЛЭП. Прагучалі два гучныя хлапкі. Сведкам здарэння апынуўся адзін з аўтараў «НН» Яраслаў. Па яго словах, на мужчыне ад кантакту з ЛЭП згарэла ўся вопратка, абгарэла скура і валасы. Пластыкавая вуда апалавілася. На месцы, дзе сядзеў рыбак, выгарала трава, а пры беразе, куды мужчына закідаў вуду, пачала ўсплываць загінуўшая рыба.

Рыбак не страціў прытомнасці, аднак у стане шоку ўвесь час прасіў медыкаў «хуткай» адпусціць яго дамоў, каб апранууца. Яго адвезлі ў бальніцу хуткай дапамогі.

# Пілігрымка жанчын у Росіцу

■ кс. Віктар Місевіч

**29 мая ў Росіцы адбылася сустрэча жанчын. Пілігрымы з'ехаліся з розных куткоў Беларусі: з Барысава, Мінска, Жодзіна, Глыбокага, Віцебска і інш. мясцовасцяў. Маці прыехалі, каб прасіць Божага благаслаўлення для сваіх дзяцей, жонкі – для мужоў, сёстры – для братоў. Агулам сабралася каля 200 чалавек.**

Сустрэча пачалася ў касцёле маёвым набажэнствам, падчас якога жадаючыя змаглі прыступіць да сакрамэнту споведзі. Як адзначыў а. Вячаслаў Пялінак МІС, ачышчэнне свайго сэрца – няўхільная ўмова атрымання Божай ласкі. Духоўна апекаваліся пілігрымамі шэсць святароў, таму кожны ахвотны змог перажыць сакрамэнт паяднання.

Святую Эўхарыстыю ўзначаліў гаспадар росіцкага санктуарыя а. Чэслаў Курэчка МІС. Ва ўступным слове ён падзякаваў сёстрам у Хрысце за прыбыццё і зазначыў, што, калі жанчына з ружанцам кленчыць у святыні – Касцёлу не страшныя ніякія выпрабаванні.

Гамілію на св. Імшы прамовіў кс. Віктар Місевіч. Ён запрасіў прысутных паразважаць над месцам жанчыны ў Св. Пісанні і ў жыцці Хрыста, а таксама над яе роляй у гісторыі збаўлення.

Пасля смачнага абеду на свежым паветры ўсе зноў сабраліся ў святыні, каб паслухаць канцэрт у выкананні музыкантаў філармоніі з Мінска. Гучанне гітары і кларнета цудоўна аздаблялі каментары а. Вячаслава Пялінка МІС, у якіх ён прадставіў подзвіг жанчын з ваеннай Росіцы.

Затым адбылася канферэнцыя, якую правёў а. Вячаслаў Пялінак МІС. Ён падкрэсліў важнасць нястомнага сведчання жанчын, іх моцнай веры і вытрымкі.

Закончылася сустрэча малітвай за беларускія сем'і і спатканнем пры каве. Многія з пілігрымаў пазнаёміліся і абмяняліся адрасамі. Нічога дзіўнага. Росіца яднае вернікаў у адну Божую сям'ю. Яна ўзмацняе і дае надзею на будучыню.











# Глыбокае вітала прадстаўніка з Ватыкана

■ кс. Віктар Місевіч

**30 мая Глыбокае вітала высокага прадстаўніка з Ватыкана. Парафію Святой Тройцы наведаў арцыбіскуп Зыгмунд Зімоўскі, старшыня Папскай рады пастырства работнікаў сферы аховы здароўя.**

Іерарху спадарожнічаў гаспадар Віцебскай дыяцэзіі біскуп ардынарый Уладзіслаў Блін. Менавіта дзякуючы яго намаганням штогод у сталіцы дыяцэзіі праходзяць медыцынскія канферэнцыі; госцем адной з іх і стаў сёлета арцыбіскуп Зімоўскі. У Віцебску ён выступіў з дакладам перад беларускімі медыкамі, наведаў дзяржаўныя ўладныя і медыцынскія ўстановы, а ў Глыбокім прамовіў Слова Божае.

На ранішняй св. Імшы прысутнічала шмат вернікаў. Глыбачане з зацікаўленасцю слухалі гамілію арцыбіскупа. Ён падзякаваў глыбоцкім католікам за захаванне і пераказ веры наступным пакаленням. Іерарх падкрэсліў еднасць, якой павінны адзначацца вернікі на ўзор Св. Тройцы.

Арцыбіскупу шчыра дзякавалі за малітву дзеці, моладзь і прадстаўнікі старэйшага пакалення, а таксама сябры Легіёна Марыі. Глыбоцкія дзеткі перадалі для Святога Айца Бэнэдыкта XVI намаляваны ўласнаручна малюнак-ліст, дзе яны выказваюць сваю шчырую любоў яму і дораць рознакаляровыя кветкі.

Арцыбіскуп Зыгмунд Зімоўскі, як старшыня Папскай рады пастырства работнікаў сферы аховы здароўя, падзякаваў і заахвоціў да руплівай дапамогі хворым і пакінутым людзям. За адданую паслугу ў гэтай справе ён узнагародзіў папскім медалём пробашча парафіі кс. Мечыслава Янчышына і сястру Габрыэлю Янчэўскую.



*Фота Івана Касевіча*



*Фота Івана Касевіча*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

7 – 13 чэрвеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 чэрвеня




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.15, 11.50** Деловая жизнь.
**08.20** В мире моторов.
**08.50** Выпускные экзамены по математике, по русскому и белорусскому языкам за период обучения на уровне общего среднего образования в общеобразовательных учреждениях.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10 «Золушка»**
**13.45** «OFF STAGE LIFE»
**14.05** «Моя правда» «Маша Распутина».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** «Собственной персоной».
**15.55** «Культурные люди».
**16.25 «Общая терапия»**
**17.25 «Не родись красивой»**
**18.20** «Прости меня».
**18.50, 00.40** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.35** Арена.
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55 «Отчаянные домохозяйки-4»**
**22.55** Шоу звезд мировой гимнастики.
**00.45** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Микки Маус. Домашний клуб».
**11.30 «Моя жена меня приворожила»**. Многосерийн.фильм.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Иван Подушкин. Джен-тльмен сыска»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20«Папа на все руки»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**. 2-я серия.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».



**23.55 «Говорящая с призраками»**.
**00.45** Наши новости.
**01.00-01.10** Новости спорта.




**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда.
**09.30** В этот день.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.35 «До завтра»**
**12.20** «Пра мастацтва».
**12.50** Школа ремонта.
**13.45 «Полюби меня снова»**
**14.35** Бухта капитанов.
**15.15** Телебарометр.
**15.30 «Цепь»** (Россия).
**16.25** Час суда.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Бухта страха»**
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.20 «Универ»** (Россия).
**21.55 «Цепь»**
**22.40 «Фердинанд и Каролина»**

СТВ REN TV (ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ")

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Дальние родственники».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер,



малыш».
**20.35 «ТАИНСТВЕННЫЙ ОСТРОВ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ДЕТИ ШПИОНОВ 2: ОСТРОВ НЕСБЫВШИХСЯ НАДЕЖД»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**07:40** Прэс-экспрэс
**07:55** Акно ў Еўропу
**08:25**«Галерэя Ады», дак. фільм
**09:15** Вагон
**09:20 «Арол: крымінальная сага»**, : 21 с
**10:20** Басанож па свеце
**10:45 «Так зняцку»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05**«Напоўныхабаротах»
**17:30 «Арол: крымінальная сага»**, : 21 с
**18:30** Аўтастопам праз Еўропу: 1 серыя, «Польшча»
**18:50** Прэс-экспрэс
**19:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:25 «Аблавушак»**, мультсерыял
**19:35** Еўропа сёння
**20:05**«Заўчасны падарунак»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:45 «Тыдзень з жыцця мужчыны»**
**23:10** Аб'ектыў

